# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 17 (2211) 25 красавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.




**Чаму Беларусі бог даў такі лёс! За час, які адмераны аднаму пакаленню, мы столькі перажылі! Здаецца, што нашаму цярплiваму і шматпакутнаму народу наканаваны вечны, неацiхаючы боль. Боль Курапатаў, якія забралі сотні тысяч жыццяў. Боль Хатыні, спаленай вайной, у якой не стала кожнага чацвёртага з нас. Цяпер — боль Чарнобыля... Ніхто з пэўнасцю не скажа, наколькі паменее наша нацыя і хто народзіцца праз пакаленне, два, тры. І што стане з нашай мілай, прыгожай зямлёй, з нашай Бацькаўшчынай; ужо сёння значная частка яе тэрыторыі знявечана радыяцыяй, на ёй не можа жыць чалавек. Да комінаў Хатыні дадаліся коміны Чарнобыля...**

**Гэта было 26 красавіка 1986 года — чарнобыльская катастрофа. Цяжкі крыж выпрабаванняў нашага народа...**

**Валянціна АКОЛАВА**

# ПЕ-РА-СЯ-ЛЕН-ЦЫ

*мінская паэма*

**1. УСТУП**

— Дачарнобыль... і паслячарнобыль:
Ружа дзікая, з **чорным** шыпом...
Боль як сталь найвысокае пробы,
Як расшчэплены гром,
З **чорным** невад-крылом над стагоддзем.
(Не закрэсліць. І морам не змыць)...
Мы наіўныя, што хутка пройдзе,
Ён, як чэрнь-адчарніць, —
Кажа Федар Іванавіч...
— Людцы,

Мы прыехалі ў Мінск "нехачмі"...
Край палескі — у атамнай будцы.
Дзень — хрышчоны слязьмі...
Вось чаму не шкадобы (жальбіны!)
Я прашу ў гараджан (паляшук), —
А вясковае маці-гардыні:
думак-працы для рук...

**2. ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ БЕЛАРУСЫ**

... Яны ніколі горад не палюбяць —
З ягонай чаркі: радасць, боль, прыгубяць...
Не захмялеюць ад жыцця ў сталіцы,
Зімой накормяць галубоў, сініцаў...

Палескі дыялект не згубяць — раптам,
Народныя не знішчаць песні, жарты...
На восем частак сэрца не разрубяць, —
Яны ніколі горад не палюбяць.

Да скроняў веку мудрасць прыгалубяць...

**3. УСПАМІНЫ ГАННЫ АНДРЭЕЎНЫ ПРА 26 КРАСАВІКА 1986-га ГОДА**

Той дзень пасхальным быў, падмогай святу...
На зелень мяты
Раса пярсцёнкі раніцы скідала:
Вясну гукала.
Дарогай той да хрэсніцы хадзіла —
І ўнучка Дзіму
Лячыла ад гадзючынага ўкусу...
Род беларусаў
Народных лекаў не забыў тайніцы.
І бліскавіцу —
З клубамі дыму ўгледзела (і-у-д-у!)...
Пакуль жыць буду —
Страшней не ўгледзяць вочанькі нічога...
Вось тое ўчора!
— Шкадованых не ўшкадаваць, нябога...
Мы ўсе — ад бога!

**4. НЕПІСЬМЁНЫ З ПРАКЛЯТАЕ ЗОНЫ**

**З дому — пісьмы, а гэтым — няма.**
Не напіша змярцвелая зона:

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*«МІНСКІ КІРМАШ. ВЯСНА-91»*

# ЦІ НЕ ПАЧАТАК ПЕРАМЕН?

Летапісная хроніка далёкіх часоў данесла да нас скупыя звесткі аб першых кірмашах у Мінску. Пачатак яны бяруць яшчэ з XV стагоддзя. Купцы, землеўладальнікі з многіх рэгіёнаў Расіі, з-за мяжы прывозілі ў Мінск тканіны, сельскагаспадарчую прадукцыю, вырабы народных умельцаў, жывёлу на продаж, абмен ці аўкцыён.

Хронікі больш позніх стагоддзяў падкрэслівалі, што стаць удзельнікам кірмашоў было вельмі складана: не хапала месца і для пражывання на заезных дварах, і для тавару ў гандлёвых радах. А яшчэ за гэта патрабавалася плаціць вялікія грошы. Ці не таму найбольш заможныя купцы "зафрахтоўвалі" розныя там корчмы за месяц ці два да кірмашоў.

Час уносіў свае карэктывы. Кірмашы ў Мінску праіснавалі да Кастрычніка. І, фактычна, адрадзіліся ў наш час. Цяпер яны праводзяцца два разы ў год: вясной і летам. Апошні з іх прайшоў сёлета ў сярэдзіне красавіка.

У кірмашы прынялі ўдзел каля 900 прадпрыемстваў і арганізацый Беларусі, іншых рэспублік, а таксама 15 фірм з-за мяжы. Бадай што, такой колькасці ўдзельнікаў, стэндаў, экспанатаў у будынку "Мінскэкспа" на праспекце Машэрава яшчэ ніколі не было. Хаця далёка не кожнае прадпрыемства ці фірма змаглі паказаць сваю прадукцыю, як кажуць, ва ўсім бляску. Многія прыехалі ў Мінск нібыта на разведку — толькі з праспектамі, тэхналагічнай дакументацыяй, іншыя не змаглі атрымаць дастатковую плошчу для размяшчэння ўсіх экспанатаў (выстаўляцца каштуе вельмі дорага!), а трэція змаглі і шыкануць.

**НА ЗДЫМКУ: у зале выстаўкі. Экспануюцца замежныя аўтамабілі.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу змешчана на стар. 3).**



СУСТРЭЧЫ Ў ПАРЫЖЫ

## ПРАЕКТ "ЮНЕСКА — ЧАРНОБЫЛЬ"

У Парыжы адбылася сустрэча міністра замежных спраў БССР Пятра Краўчанкі з генеральным дырэктарам ЮНЕСКА Федэрыка Маерам. Абмеркаваны комплекс пытанняў, звязаных з рэалізацыяй праекта "ЮНЕСКА — Чарнобыль", які ўступіў у дзеянне ў выніку падпісання 9 студзеня гэтага года спецыяльнага пагаднення паміж ЮНЕСКА, СССР, БССР і УССР.

Напярэдадні пятай гадавіны чарнобыльскай трагедыі ў штаб-кватэры ЮНЕСКА з удзелам міністра замежных спраў БССР адбылася прэзентацыя фільма "Воблакі нашага дзяцінства", прысвечанага акцыі міжнароднай салідарнасці з дзецьмі Чарнобыля. Дзякуючы гэтай акцыі 1235 беларускіх дзяцей змаглі адпачыць летам 1990 года ў пятнаццаці краінах Заходняй Еўропы.

У прэзентацыі прынялі ўдзел кіраўнікі пастаянных прадстаўніцтваў буйнейшых краін свету пры ЮНЕСКА, паслы рада дзяржаў, акрэдытаваных ў Парыжы. П. Краўчанка, які выступіў перад прысутнымі, ад імя парламента, урада і народа Беларусі выказаў сардэчную падзяку ўрадам усіх краін, а таксама раду міжнародных арганізацый, рэлігійных канфесій, Сусветнай арганізацыі руху скаўтаў за праяўленыя салідарнасць і гуманізм. З пачуццём глыбокага задавальнення было адзначана, што ў гэтым годзе дзяцей з Беларусі гатовы прыняць на аздараўленне ўжо 20 краін свету.

ПАМЯЦЬ АБ ПРОДКАХ

## РАДАЎНІЦА

Здаўна ў гэты дзень прынята ў народзе аддаваць даніну памяці і павагі продкам, памінаць памерлых блізкіх і сяброў. Таму ў аўторак, 16 красавіка, па ўсёй Беларусі адзначалася Радаўніца. У многіх раёнах, на асобных прадпрыемствах гэты дзень быў нерабочым — яго перанеслі на суботу. А людзі спяшаліся на могілкі.

Упершыню Радаўніца адзначалася і на афіцыйным узроўні. Кіраўнікі Вярхоўнага Савета, урада і Кампартыі рэспублікі, прадстаўнікі гарадскіх улад наведалі мінскія могілкі. Да магіл салдат, загінуўшых пры вызваленні беларускай сталіцы, воінаў-інтэрнацыяналістаў, вядомых партыйных і дзяржаўных дзеячаў мінулага ляглі букеты кветак. У Курапатах мінутай маўчання была ўшанавана памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ

## НАЗНАЧАНЫ ВАТЫКАНАМ

Папа Іаан Павел II назначыў шэсць епіскапаў і апостальскіх адміністратараў у Расіі, Беларусі і Казахстане. Гэтыя назначэнні — першы крок да фармал... а стварэння епархіі Рымска-каталіцкай царквы та..., дзе будуць працаваць новапрызначаныя.

Архіепіскапам у Маскве назначаны 45-гадовы Тадэвуш Кандрусевіч, епіскап з Гродна, які да гэтага апекаваў паству ў Беларусі. Апошні апостальскі адміністратар Маскоўскай епархіі каталіцкай царквы пакінуў Маскву ў 1936 годзе. Кіраваць будучай епархіяй Мінска і Магілёва будзе 77-гадовы эстонец Казімеж Свёнтэк, епіскапам Гродна становіцца Аляксандр Лашкевіч. К. Свёнтэк таксама будзе апостальскім адміністратарам епархіі ў Пінску. Папа заснаваў таксама каталіцкую адміністрацыю ў Новасібірску. Ёю будзе кіраваць народжаны ў Германіі езуіт Жозеф Верт. Каталіцкім адміністратарам у Казахстан накіроўваецца Ян Ленга (да гэтага часу быў пробашчам у Красноармейску).

Як мяркуюць, савецкае кіраўніцтва дало згоду на стварэнне епархій у сувязі з тым, што ў 1992 годзе чакаецца візіт Іаана Паўла II у Савецкі Саюз.

*"Прэтэнзіі Савецкага Саюза на Клайпеду маюць такую ж "прававую аснову", як і перадвеннай гітлераўскай Германіі на Аўстрыю ці чэшскія Судэты. Клайпеда была суверэннай часткай Літоўскай рэспублікі да вясны 1939 года і ніколі не належала Расіі. Аналагічна, з юрыдычнага пункту гледжання, ідуць справы з Вільнюскім краем. У 1939 годзе і пазней Савецкі Саюз перадаў Літве толькі частку таго, што сам прызнаў за Літвой у дагаворы 1920 года. Акрамя таго, заява кіраўніцтва Савецкага Саюза аб нібыта спрэчнасці нейкіх сённяшніх тэрыторый Літвы павінна быць расцэнена ў свеце як небяспечны сігнал да перагляду граніц. Гэтага СССР, як краіна, што падпісала Заключны акт Хельсінкскай нарады, не павінен дапускаць, а тым больш не ўблытваць Беларусь — члена ААН, якая мае адпаведныя абавязацельствы.*

*Калі ж нейкія пытанні, што тычацца тэрыторыі Літвы, могуць узнікнуць, то выключна з Германіяй і Польшчай. Савецкі Саюз, з прававога пункту гледжання, тут зусім ні пры чым, а памянёныя дзяржавы лічаць свае межы канчатковымі".*

*(В. ЛАНДСБЕРГІС, Старшыня Вярхоўнага Савета Літвы).*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У некаторых вёсках Чавускага раёна на Магілёўшчыне было праведзена апытанне сярод сялян: "Ці хочаце вы ўзяць зямлю?". Усе дружна адмовіліся, спасылаючыся на нестабільнасць палітыкі, немагчымасць купіць сельгастэхніку, нізкія закупачныя цэны на прадукцыю.

● Тэкстыльшчыкам Гродзенскага прадзільна-ніточнага камбіната перастала падабацца назва іх прадпрыемства — "Імя XXV з'езда КПСС". Аб'яўлены конкурс на новую назву камбіната. Пераможца атры... ..аж 100 рублёў.

● На Брэстчыне за пачатку года на 2 працэнты скараціўся грамадскі статак кароў, на 5 — свіней, на 27 — авечак, на 20,9 тысячы галоў зменшылася колькасць птушкі. Адпаведна змяншаюцца пастаўкі мяса і малака дзяржаве.

● Перасоўную медыцынскую лабараторыю ў мікрааўтобусе для дыягностыкі СНІДа (AIDS) перадаў вернікам Гродзеншчыны папа рымскі Іаан Павел II. Цырымонія перадачы дару адбылася ў Гродне на плошчы перад касцёлам.

МЯСА З... ПАВЕТРА





На Калінкавіцкім мясакамбінаце Гомельскай вобласці прыбаўку да 10 тон мяса ў месяц атрымліваюць, як гаворыцца, "з паветра". Гэта стала магчымым дзякуючы прымяненню новай тэхналогіі замарожвання. Яна распрацавана і ўкаранёна дырэктарам прадпрыемства Антонам Горбачам сумесна з вучонымі Кішынёўскага політэхнічнага інстытута.

Сутнасць наватарства ў тым, што на прадпрыемстве традыцыйнае двухфазнае замарожванне замянілі на аднафазную сістэму паветраразмеркавання з унутрыкамернай рэгенерацыяй вільгаці. Натуральны працэнт усушкі мяса, замарожанага такім чынам, значна зніжаецца, якасць жа прадукту застаецца выдатнай. Спецыялісты падлічылі, што калі б усе камбінаты рэспублікі прымянілі такую тэхналогію, Беларусь мела б дадаткова каля 20 тысяч тон мяса ў год. А гэта ні многа, ні мала — гадавая прадукцыйнасць пяці буйных жывёлагадоўчых комплексаў.

НА ЗДЫМКАХ: прыемна паабедаць у сталовай камбіната; расфасаваная такім чынам прадукцыя прадпрыемства карыстаецца добрым попытам. На пярэднім плане — апаратар Зінаіда КУЦЭНКА.

АКТУАЛЬНЫ КАМЕНТАРЫЙ

## НАМ ПАГРАЖАЕ ГОЛАД?

Цяпер ужо ўсім ясна, што памеры і глыбіня палітычнага і эканамічнага крызісу, які напаткаў краіну, настолькі вялікія, што размова ідзе літаральна аб існаванні Савецкага Саюза як дзяржавы. Асабліва востра і хваравіта ўсімі адчуваецца дэфіцыт прадуктаў харчавання. Магазіны пустыя ў прамым сэнсе слова. Любы тавар раскупляецца неадкладна і ў самы кароткі тэрмін. У свабодным продажы ў многіх гарадах няма нават солі.

Пра голад, аднак, гаварыць яшчэ рана, але нарыхтоўка асноўных прадуктаў харчавання год ад года зніжаецца сістэматычна і няўхільна. Так, з 1985 па 1990 год закупкі збожжа скараціліся на 5,7 мільёна тон, хаця мінулы год быў рэкордным па ўраджайнасці. У 1989 годзе збожжа дзяржавай было закуплена на 14,4 мільёна тон менш чым у 1985-м. Закупкі бульбы ў 1990 годзе скараціліся на 7,1 мільёна тон у параўнанні з 1985 годам. Амаль на чатыры мільёны тон менш было нарыхтавана гародніны. Зменшыліся таксама закупкі пладоў і ягад.

Першай прычынай наступаючага харчовага крызісу з'яўляецца, на думку многіх, захаванне калгасна-саўгаснай сістэмы землекарыстання. Крайне абагуленая, а дакладней, дзяржаўная, сельская гаспадарка магла яшчэ так-сяк функцыяніраваць пры каманда-адміністрацыйным кіраванні, калі штогод дзесяткі мільёнаў гараджан па загаду адпраўляліся ў калгасы і саўгасы для выканання тэрміновых сезонных работ. Затраты адносіліся не на сельскагаспадарчую прадукцыю, а на кошт тых прадпрыемстваў і арганізацый, дзе гэтыя людзі працавалі пастаянна.

Вырашэнне праблемы многім бачылася ў паскоранай прыватызацыі сельскай гаспадаркі, надзяленні сялян зямлёй, стварэнні фермерскіх гаспадарак і г. д. Аднак саюзны ўрад у чарговы, і ўжо незлічоны раз пайшоў на выратаванне эканамічна і сацыяльна слабых калгасаў і саўгасаў шляхам павышэння, у які ўжо раз, закупачных цэн на прадукцыю сельскай гаспадаркі і спісанне даўгоў. На гэта пайшло каля 100 мільёнаў рублёў. У цэлым за мінулы год калгасы і саўгасы павялічылі свае даходы ў паўтара раза. Праўда, урад пры гэтым чакаў, што істотна павялічыцца і продаж збожжа, гародніны, мяса і г. д. Але адбылося адваротнае. Скараціліся не толькі аб'ёмы продажу, але і, у цэлым шэрагу выпадкаў, зменшылася вытворчасць. Неабгрунтаванае павышэнне цэн заўсёды суправаджаецца падзеннем вытворчасці — гэты эканамічны закон аказаўся навінай толькі для ўрада.

Прагноз на 1991 год яшчэ больш бязрадасны. Па-першае, мінулай восенню на 4 мільёнах гектараў не былі пасеяны азімыя збожжавыя. Мяркуецца, што гэтай вясной на іх будуць пасеяны яравыя культуры. Але іх ураджайнасць у трэць ніжэйшая. Па-другое, пры росце аб'ёму веснавых палявых работ на 25 працэнтаў (акрамя сяўбы яравых запатрабуецца яшчэ на 7-8 мільёнах гектараў перасяваць з-за неспрыяльных умоў надвор'я) у сельскай гаспадарцы ў гэтым годзе назапашана менш дызельнага паліва, бензіну, тэхнікі і г. д. І, самае важнае, у калгасаў і саўгасаў не хапае насеннага матэрыялу на ўсе наяўныя плошчы.

Пачаў даваць збоі і раней бездакорны спосаб вырашэння харчовай праблемы — імпарт прадуктаў харчавання. За апошнія чатыры гады на знешнім рынку было закуплена 129 мільёнаў тон збожжа, 3,2 мільёна тон мяса і мясапрадуктаў, 2,7 мільёна тон алею, 19,3 мільёна тон цукру і г. д. Але калі раней доларавай выручкі ад экспарту нафты і газу на гэта хапала, то цяпер сітуацыя рэзка змянілася. Расшырылася кола тавараў, якія трэба ўвозіць у краіну. У мінулым годзе, напрыклад, у Германіі і Польшчы быў куплены 1 мільён тон бульбы, якая ніколі раней не ўвозілася. У вялікай колькасці сталі імпартавацца гародніна і фрукты. А экспарт энерганосьбітаў у той жа час істотна скараціўся, і цэны на іх знізіліся. Валютнай выручкі ад продажу нафты і газу аказалася мала, каб пакрыць расходы па імпарту прадуктаў харчавання.

Па планах урада ў гэтым годзе меркавалася закупіць за мяжой 40 мільёнаў тон збожжа, больш за мільён тон мяса і мясапрадуктаў, прыкладна столькі ж алею, каля 5 мільёнаў тон цукру, значную колькасць чаю, кавы, какава-бабоў, цытрусавых і г. д. На жаль, пакуль гэта толькі планы. Ва ўрада па-ранейшаму няма валюты, і, хутчэй за ўсё, паступленні ад імпарту сёлета будуць увогуле намнога меншыя, чым у любым з апошніх 15—20 гадоў.

Скарачэнне запасаў збожжа выкліча і зніжэнне прадукцыйнасці жывёлагадоўлі. Ужо цяпер рэзка скарацілася вытворчасць яек, курынат-бройлераў, пагалоўе птушкі. Пад пагрозай і іншыя галіны жывёлагадоўлі.

Харчовае становішча з кожным днём набывае ўсё больш драматычны характар. Пагроза, калі не голаду, то недаядання становіцца рэальнай. На жаль, урад краіны захоўвае зайздросны спакой, хаця, несумненна, ведае сапраўднае становішча спраў. Прэм'ер Паўлаў заявіў нядаўна, што Кабінет мае намер прыняць "рашучыя меры". На самай жа справе аказалася, што размова ідзе зноў аб масіраваней падтрымцы калгасаў і саўгасаў за кошт прыватных гаспадарак.

Рэальна пазбегнуць недаядання і голаду ў прамым сэ...е можна цяпер, толькі зрабіўшы самыя адчайныя крокі. Адзін з іх — раздача невялікіх участкаў зямлі (ад 0,04 да 0,15 гектара) гараджанам для вырошчвання ўжо гэтай вясной бульбы і іншай гародніны. Б. Ельцын і І. Сілаеў ужо зрабілі гэты крок, дазволіўшы раздачу зямлі. У больш аддаленай перспектыве вырашэнне харчовай праблемы ўсё-такі непасрэдна звязана з поўнай адмовай ад догм аб "перавагах грамадскай гаспадаркі" і размеркаваннем (раздачай) зямлі фермерам.

Анатоль ДЗЯРАБІН,
доктар эканамічных навук, загадчык сектара Інстытута эканомікі АН СССР.

ЦІ ЁСЦЬ ШАНЦ ВЫЙСЦІ НА ЗАМЕЖНЫ РЫНАК?

# ВЫКЛІК ЗАХОДНЯЙ ТЭХНАЛОГІІ

У Мінскай навукова-даследчай лабараторыі вынаходніцкіх машын упарта працягваюць весці унікальныя распрацоўкі, цікаўнасць у свеце да якіх велізарная.

Вядома, на міжнародны рынак праграмнага забеспячэння і высокіх тэхналогій навічку прабіцца са сваёй, нават выдатнай прадукцыяй архіскладана, бо там ужо даўно пануюць буйныя амерыканскія, японскія і заходнееўрапейскія канцэрны і фірмы. Тым не менш невялікая група мінчан поўная рашучасці штурмаваць цяжкадаступны сусветны рынак са сваёй прадукцыяй. І не толькі прарвацца туды, але і трывала замацавацца. Хоць сама лабараторыя самастойна існуе ўсяго паўтара года!

Адчуваеце, чытач, ступень аптымізму натхнёных Напалеонаў ад праграміравання, агульны ўзровень якога ў СССР у параўнанні з замежнымі дасягненнямі зусім невысокі. Манілаўшчына! Колькі ў апошнія гады ў нашай краіне з'явілася аўтараў дзёрзкіх праектаў, ідэй, якія пры сутыкненні з рэчаіснасцю аказаліся блефам, пустымі фантазіямі, а то і шарлатанствам. Але чым глыбей унікалі ў сутнасць дзейнасці лабараторыі, тым менш сумненняў заставалася ў плёне працы яе супрацоўнікаў.

Аднак што такое вынаходніцкая машына? Яна ўяўляе сабой інтэлектуальную сістэму падтрымкі рашэння складаных інжынерна-вынаходніцкіх задач. Прасцей, гэта інструмент, які павышае інтэлект інжынера ў ... 6 000 разоў! Сістэму можна выкарыстоўваць у любой галіне: ад сельскай гаспадаркі да касмічнай прамысловасці. Гэта праграма, размешчаная ў памяці персанальнага камп'ютэра, дазваляе інжынерам, вучоным выкарыстоўваць інтэлект лепшых вынаходнікаў.

Распрацавана сістэма на аснове метадаў штучнага інтэлекту. Вельмі шкада, што з-за дэфіцыту газетнай плошчы няма магчымасці расказаць гісторыю арганізацыі лабараторыі і стварэння вынаходніцкай машыны. Гэта, паверце, была б светлая аповесць аб самаахвярнасці, бескарыслівым служэнні ідэі, энтузіязме вучоных-даследчыкаў Мінскага радыётэхнічнага інстытута, іх студэнтаў-аднадумцаў пад кіраўніцтвам В. Цурыкава, якія літаральна на пустым месцы, пераадольваючы неразуменне бюракратаў ад навукі і процідзеянне нядобразычліўцаў, ішлі і, галоўнае, прыйшлі да пастаўленай мэты. А ўсяго за нейкія 14 гадоў здолелі атрымаць, як кажуць у лабараторыі, высокаінтэлектуальны прадукт. Падкрэслім, прадукт, якому няма аналагаў у свеце, і адначасова заўважым: пакуль няма. Бо агульнавядомая ўспрымальнасць Захаду да свежых неардынарных ідэй, неабмежаваныя фінансавыя магчымасці. А талент і настойлівасць "іх" менеджэраў у арганізацыі вытворчага працэсу не пакідаюць вялікіх спадзяванняў на тое, што манаполія на вынаходніцкую машыну нам будзе доўга належаць.

Свабодна канверсуемая валюта і вытворчыя плошчы, дакладней, іх адсутнасць, больш за ўсё перашкаджаюць лабараторыі паспяхова весці работу. Прыпыненне даследаванняў, няхай і часовае, на невялікі тэрмін, абернецца для яе стратай высокага набранага тэмпу, а для рэспублікі недалічэннем у бюджэце буйных сум валюты. Соцень, тысяч, а, магчыма, і мільёнаў.

І не такая ўжо вялікая колькасць валюты патрэбна лабараторыі — усяго 15-20 тысяч долараў. І не просіць лабараторыя падарыць, а дазволіць знайсці магчымасць набыць іх за наяўны разлік нават па аўкцыённаму курсу. 20 тысяч патрэбна на паездку ў Чыкага, дзе ў красавіку гэтага года будзе праводзіцца міжнародная прэстыжная выстаўка інжынерных тэхналогій. Яе гаспадары ў запрашэнні адзначаюць, што для прадстаўнікоў лабараторыі будзе арганізавана асобная прэс-канферэнцыя па праблеме выкарыстання вынаходніцкай машыны. Аб лепшай рэкламе і марыць нельга! Выстаўку будзе асвятляць шмат выданняў, у тым ліку і спецыялізаваных. Дарэчы, нядаўні станоўчы артыкул у амерыканскім камп'ютэрным часопісе аб вынаходніцкай машыне ўзняў акцыі мінскай лабараторыі. Можа таму мінская лабараторыя — адзіная савецкая арганізацыя, якой даслалі запрашэнне з Чыкага.

Рэклама рэкламай, а буйная міжнародная выстаўка якраз тое месца, дзе неабходна прысутнічаць. Там і толькі там можна паказаць шырокаму колу зацікаўленых асоб і фірм сваю прадукцыю, заключыць пагадненні і кантракты, завязаць патрэбныя сувязі.

Чаму, напрыклад, менавіта ў Канадзе павышаны інтарэс да мінскай прадукцыі? А таму, што летась вынаходніцкая машына на міжнародным кірмашы-выстаўцы магчымасцей тэхналогій у горадзе Калгары вельмі ўразіла яе ўдзельнікаў і наведвальнікаў. Прывяду вытрымкі з пісьма Глена Філдса, рэгіянальнага выканаўчага дырэктара Камітэта па прамысловасці, навуцы і тэхналогіі Канады: "Ваш удзел унёс уклад ва ўзмацненне ўзаемадзеяння спецыялістаў у галіне перадавой тэхналогіі інстытутаў і арганізацый Канады і іншых краін. Як інфармацыйныя семінары, так і спецыялізаваная тэхналагічная дапамога, даступная на вашым стэндзе, прынеслі велізарную карысць наведвальнікам. Мы апладзіруем вашаму ўдзелу і спадзяёмся на сумесную работу".

Крыху пазней з Канады прыйшоў агляд-ацэнка 40 удзельнікаў выстаўкі, своеасаблівы рэйтынг папулярнасці. На першым месцы была японская служба навукова-тэхнічнай інфармацыі, на другім — канадскі прамыслова-інавацыйны цэнтр, на трэцім — лабараторыя вынаходніцкіх машын з Мінска.

Для лабараторыі, якую ў роднай рэспубліцы мала ведаюць, а не тое, што ў свеце, трэцяе месца ў такім прадстаўнічым спісе з'явілася своеасаблівым трыумфам беларускай навукі.

Толькі з ЗША пасля Калгары прыйшло больш як 70 дзелавых пісьмаў, у якіх выказваецца прапанова пазнаёміцца бліжэй з распрацоўшчыкамі машыны. Па словах У. Дзёміна, спецыяліста лабараторыі па маркетынгу, толькі ў Канадзе, згодна з ацэнкамі іх спецыялістаў, вынаходніцкіх машын можна рэалізаваць прыкладна на 8 мільярдаў долараў.

Думаецца, не варта і казаць, што гэтыя машыны не менш патрэбныя і ў родным краі. Не хочацца стамляць чытача хвалебнымі водгукамі і цытатамі нашых спецыялістаў. Сёння машына выкарыстоўваецца на 350 прадпрыемствах краіны, і ўсюды ёю задаволены. Яна будзе нарасхват. Дастаткова прывесці факт, што летась у лістападзе затраты на выстаўку-сімпозіум у Мінску, дзе галоўным экспанатам была машына, акупіліся за першыя паўгадзіны работы выстаўкі. Цана машыны — 20 тысяч рублёў. У 1990 годзе іх прадалі на 3,6 мільёна рублёў.

Карацей кажучы, у рэспубліцы вырасла курка, якая можа несці валютныя яйкі. Першы іх збор чакаецца ў Фінляндыі, якую ў дзелавым свеце яшчэ называюць Паўночнай Японіяй за поспехі ў эканоміцы. Там для распаўсюджвання мінскіх машын створана фірма. Зараз у краіну зроблены пілотныя пастаўкі машын, гэта значыць, пэўны тэрмін на іх будуць працаваць тутэйшыя спецыялісты і, калі тэхніка прыйдзецца даспадобы, набудуць яе ў маі гэтага года.

Супрацоўніцтва з Фінляндыяй вызначаецца сучасным падыходам. Там мінскія спецыялісты кансультуюць на месцы выкарыстання машын тутэйшых інжынераў. У выніку значна павялічваецца аддача машыны. Усё больш краін праяўляюць цікавасць да вынаходніцкіх машын і выказваюць жаданне супрацоўнічаць з мінскай лабараторыяй. Усіх не пералічыць, назавём асобныя. Гэта Галандыя, Данія, Швейцарыя, Пакістан, Філіпіны, Італія, Партугалія, Германія і іншыя.

Л.ТУГАРЫН.




# ЦІ НЕ ПАЧАТАК ПЕРАМЕН?

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

Напрыклад, польская фірма "Мяркуры". Яе гаспадыня Марыя Шчуба шчодра раздорвала падарункі наведвальнікам, прапаноўвала пасядзець за столікам за шклянкай гарбаты. Кожны дзень вырабы фірмы (верхняе адзенне са скуры) дэманстравалі манекеншчыцы.

— На рэкламу, — сказала Марыя Шчуба, — не шкадуем грошай. Яна акупіцца вельмі хутка. На мінулай выстаўцы нам удалося заключыць некалькі выгадных кантрактаў. Спадзяёмся, што і цяпер на кірмашы будуць новыя здзелкі. Папярэднія перагаворы мы ўжо вядзём, нашы вырабы падабаюцца наведвальнікам.

Так, "Мяркуры" мог разлічваць на чарговы поспех у Мінску, бо прывёз, як заўжды, новыя мадэлі адзення, парфюмерныя вырабы.

Але не ўсе замежныя фірмы засталіся задаволенымі гэтым кірмашом. Толькі ві тут гаспадароў ніякай не было. Прыгадаем яшчэ адну польскую фірму "Прыстан". Яна, па-першае, прывезла невялікую колькасць сваіх тавараў, а па-другое, большасць іх ужо дэманстравалася ў Мінску. Таму і цікавасць з боку гандлёвых арганізацый рэспублікі г гэтай фірмы была невялікай.

Часам справам дзелавых людзей перашкаджала і палітычная нестабільнасць у рэспубліцы. З вялікімі планамі прыехалі ў Мінск гаспадары канадскай фірмы "Міркан" муж і жонка Баці. Яны адразу знайшлі дзелавых партнёраў на кірмашы. Але... Давайце паслухаем прэзідэнта беларускай фірмы "Альбатэкс" Міхаіла Заваротнага.

— Ужо ў першы дзень кірмашу мы вялі перагаворы з канадцамі аб пастаўцы імі модуляў для будаўніцтва матэляў на шашэ Масква—Брэст. Прыкладна па 20—25 штук. Гэта выгадна і нам, "Альбатэксу", і "Міркану". Модулі — гэта фактычна гатовыя будынкі з мэбляй, тэлевізарамі, халадзільнікамі — тым, што ў нас з'яўляецца дэфіцытам. Хуткасць паставак, параўнальна невялікі кошт — вось што нас падкупляла. Ды і канадцы не засталіся б у пройгрышы: затраты акупіліся б усяго за два гады.

Але праз дзень канадцы ветліва папрасілі адкласці на нейкі час дзелавыя перагаворы. Казалі, што бачылі на свае вочы забастоўкі ў Мінску. Такая палітычная нестабільнасць палохае іх, вымушае адмовіцца ад дзелавых перагавораў.

Так, замежныя тавары на кірмашы былі. Але экспанавалася тут большасць айчынных вырабаў. І можа ўпершыню яны саставілі такую сур'ёзную канкурэнцыю замежным.

Вызначалася экспазіцыя спецыяльнага канструктарска-тэхналагічнага бюро Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна. Распрацаваныя ім прыборы — высокага класа. Разлічаны яны і на касмічныя даследаванні (сістэма дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі "Гама-2"), і зацікавяць геолагаў (аналізатар пробы руды волава)...

Мінскі прыборабудаўнічы завод імя Леніна — пастаянны ўдзельнік айчынных і міжнародных выставак і кірмашоў. У апошнія гады ён узяў цвёрды кірунак на вытворчасць тавараў народнага спажывання. На гэты раз яго экспазіцыю склалі вальтметры, асцылографы, а таксама мясарубкі, міксеры, шынкоўкі — усё тое, за што замежныя турысты гатовы сёння плаціць валютай.

— Мы не чакалі бачыць ля свайго стэнда так многа зацікаўленых людзей: і савецкіх, і замежных, — расказвае прадстаўнік Чыстапальскага гадзіннікавага завода Тагір Уруджаў. — Нашы гадзіннікі "Усход", "Камандзірскія" гатовы былі набыць усе. І таму кірмашом мы вельмі задаволены. Цяпер нават узніклі праблемы: дзе ўзяць гэтулькі гадзіннікаў, каб за валюту прадаваць іх за мяжу.

Апошнія прыклады не могуць не радаваць. Калі раней на міжнародных выстаўках ці кірмашах айчынныя прадпрыемствы вельмі часта былі неканкурэнтаздольнымі ў параўнанні з замежнымі, то сёння мы ўжо можам гаварыць аб пачатку вялікіх перамен. Нам ёсць што паказаць, мы перастаём здзіўляцца, што айчынная марка заваёўвае сусветны рынак. Хаця, як гаварылі ўдзельнікі кірмашу, гэта прадукцыя цяжка даецца кожнаму прадпрыемству: не хапае сыравіны, зрываюцца пастаўкі камплектуючых дэталяў. Ці справа ў нейкай дробязі — не адпавядае колер... упаковак.

Кірмаш у Мінску быў добра арганізаваны. Усе ўдзельнікі яго мелі магчымасць уладкавацца ў лепшыя гасцініцы беларускай сталіцы, змаглі прысутнічаць на канцэртах, сімпозіумах, атрымаць поўную інфармацыю па ўсіх пытаннях.

Многія экспанаты можна было купіць і за валюту, і за рублі.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: адна з культурных праграм у зале "Мінскэкспа"; гадзіннікі Чыстапальскага завода дэманструе Тагір УРУДЖАЎ.

Фота С. КРЫЦКАГА.



**За даль чатырох стагоддзяў адышло ад нас ужо Вялікае княства Літоўскае. Тэрмін, здавалася б, больш чым дастатковы, каб вывучыць, аднавіць, апісаць падрабязна, адкуль яно "ёсць пайшло", як развівалася, чым было, чым стала і чым скончылася. Гістарыяграфія ВКЛ сапраўды багатая, але гісторыя ВКЛ па-ранейшаму хавае ў сабе мноства пытанняў без ясных ці вельмі супярэчлівых, нават узаемавыключаючых адказаў. І справа тут не толькі ў тым, што працэс пазнання не ведае межаў, справа яшчэ ў палітызацыі гістарычнага мінулага тымі ці іншымі сіламі. Змяняліся рэжымы — змяняліся трактоўкі.**

**Сёння далёкая гісторыя ВКЛ стала адной з найбольш актуальных тэм для беларускіх гісторыкаў і найбольш цікавай, прыцягальнай для беларускіх чытачоў. Гэта не дзіва: ідзе вызваленне гісторыі ад магутнага налёту сталінісцкіх стэрэатыпаў, скажэнняў, ілжы, актыўна абуджаецца нацыянальная самасвядомасць беларусаў, якія жадаюць ведаць свае гістарычныя карані, вытокі беларускай дзяржаўнасці. Гісторыя ВКЛ у гэтых адносінах дае шырокую прастору для даследаванняў. Безумоўна, адказы зноў жа неадназначныя, спрэчка працягваецца. І гэта нармальна. Важна толькі, каб яна была вольнай ад палітычнай кан'юнктуры, каб даследаванне вялося з пазіцый аб'ектыўнасці.**

**Вызваленая галоснасцю з кайданаў афіцыёзу, тэма ВКЛ стала прыцягальнай нарэшце для маладых гісторыкаў. Іх пункту погляду, іх меркаванням, магчыма, не заўсёды хапае грунтоўнасці, але затое ў свежасці поглядаў, падыходаў да тэмы, у захапленні сваёй гісторыяй ім не адмовіш. Аб гэтым сведчыць і артыкул Сяргея КАРАЛЯ, студэнта трэцяга курса гістфака Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Аўтар звярнуўся да XIV стагоддзя, якое абышлі сваёй увагай даследчыкі. Ён убачыў у падзеях таго часу завязку многіх працэсаў, якія вызначаць у будучыні лёс ВКЛ, лёс беларускай дзяржаўнасці.**

Сяргей КАРОЛЬ

# ВЕРШНІКІ НА КОНЯХ

Суадносіны ўлады і народа, улады і дзяржаўнай сістэмы, дзяржаўнай палітыкі прыцягвалі ўвагу гісторыкаў усіх часоў. І тым мацней прыцягальная сіла існаваўшай некалі дзяржавы, калі размова вядзецца аб нацыянальным у яе нараджэнні і развіцці, тым больш інтрыгуе ўлада, калі яна ўзнікла на мяжы эпох, на мяжы культур, на мяжы этнасаў. Вялікае княства Літоўскае ў гэтых адносінах — ідэальны аб'ект для даследаванняў. Яго дзяржаўнае збудаванне, сістэма яго ўлады — своеасаблівыя і парадаксальныя. Дзяржаўнасць якога народа пранесла яно праз сваю гісторыю? — пытанне для спрэчак, што не сціхаюць і сёння.

Да апошніх дзён аргументацыю шукалі ў XIII, XV і XVI стагоддзях, чамусьці абыходзячы XIV. А між тым менавіта яно, гэтае ваеннае стагоддзе, — час стварэння той формы ўлады, якая з'явілася такой непадобнай на вядомыя нам. Гэта час, калі сціскаліся спружыны, якія, распусціўшыся стагоддзем пазней, прапанавалі свету і гісторыкам незвычайную краіну — краіну, дзе развіваліся побач некалькі народаў, суіснавалі некалькі вер. Тады і з'явіўся вобраз дзяржавы, што жыла асаблівым і часам незразумелым палітычным жыццём: яна не стала ні манархіяй, ні дэмакратыяй, не была унітарнай, аднак і федэратыўнай завершанасці так і не набыла. І (у гэтым была яе драма) сышла з палітычнай карты разам са сваёю назваю. Гэта была трагедыя для людзей тых часоў. А для нас пытанні: таму што сёння, гледзячы на сучасныя заходнееўрапейскія краіны і назіраючы іх гістарычны шлях, мы бачым іх непасрэднымі спадкаемцамі свайго сярэдневечча. І ў нас апускаюцца рукі, бо не пакідае пачуццё "абдзеленасці" ўласным мінулым. Але варта крыху напружыць зрок, адкінуўшы школьныя стэрэатыпы, і перад намі паўстане сапраўды арыгінальная гісторыя беларускага народа...

XIV стагоддзе было надта важным для тагачаснай Белай Русі — аднаго з прататыпаў зборнага вобраза ВКЛ, не менш важнае яно і для Беларусі цяперашняй — адной з яго пераемніц. Гэта стагоддзе працягвае задаваць нам пытанні, і трохколерны сцяг над вежай Гедыміна ў Вільні — толькі палова адказу на іх, другую палову трэба яшчэ шукаць. Бо ўлада літоўскіх князёў не азначае выключна літоўскую дзяржаўнасць. Бо ВКЛ — таксама дзяржаўнасць і беларуская. І мабыць менавіта XIV стагоддзе больш за ўсё сведчыць на карысць гэтага.

## БРЫГАНДЫ Ў КНЯЖАЦКІМ АДЗЕННІ

Вялікі князь Гедымін, "правіцель літоўцаў і рускіх", загінуў у пахмурны восеньскі дзень у Прусіі ля аднаго з крапасных муроў Беербурга. Вялікі князь, улада [illegible]га фактычна абмяжоўвалася правам военачальніка, кіраўніка паходаў і абароны, і загінуў як воін: ад кавалка металу, што трапіў у грудзі, выпушчанага з яшчэ невядомага на ўсход а[illegible] Прусіі ружжа. Ён падзяліў лё[illegible]оства іншых вояў, якія штурмавалі вал і не ведалі, што ў байніцах звычайнай сцяны, у руках звычайнага кнехта сядзіць маленькі д'ябал, злы дух, здольны змярцвіць дзесятак чалавек усяго за некалькі імгненняў. Гэта было нечакана і страшна, і войска, адкаціўшыся ад муроў, абцяжаранае смуткам княжацкага абозу, вярнулася ў Вільню.

Стары горад, але яшчэ маладая сталіца, сустрэў правіцеля жалобнымі абрадамі трох вер. Праз дзень па даўняму паганскаму звычаю цела Гедыміна спапяліла полымя пахавальнага вогнішча. Сем яго сыноў, сем мужных вяроў з абветранымі ў паходах тварамі, моўчкі праводзілі князя. Надыходзіў час выконваць апошнюю бацькаву волю — раз'язджацца па замках, што вызначыў ён кожнаму з сыноў. Пабудаваныя да яго смерці, суадносна з яго ваеннымі ідэямі, гэтыя замкі чакалі сыноў вялікага воя. І ехалі яны туды не ўладарыць, а толькі кіраваць, выконваць у кожнай вобласці тыя ж функцыі, што выконваў і іх бацька на вялікім княжэнні. Альгерд накіроўваўся ў цэнтр былых Нальшанаў Крэва, Кейстут — у Трокі. Малодшы і, па паданню, любімы сын Гедыміна Яўнут мусіў заставацца ў Вільні.

Няма неабходнасці распавядаць пра астатніх, таму што менавіта гэтыя тры ў хуткім часе зробяцца галоўнымі героямі вялікіх падзей, у той час як іх чатыры неназваныя браты застануцца крыху збоч.

І нікога, у тым ліку саміх княжатаў, такое размеркаванне не здзівіла. Як не здзівіла і тое, што дзяржава заставалася амаль што без вярхоўнай улады. Не здзівіла, бо традыцый яе захавання не існавала. Не было традыцый спадчыннасці велікакняжацкага трона, як не было і самога трона, як не было і ўласнага замка — трывалага і адвечнага дому ўладара, а былі сядло і конь, дзіда, меч і кальчуга, валы і вежы ажно дзевяці замкавых збудаванняў, размеркаваных цяпер па сынах. Не было і ўласнага дамена, няхай маленькага, але ж свайго астраўка ў моры чужых сапраўды прыватных зямель. Хаця б такога, як Іль-дэ-Франс (літаральны пераклад — востраў Францыі) вядомых Капетынгаў ці такога, як вотчына Івана Каліты, князя Маскоўскага. Ваяўнічы і шалёна смелы, на выгляд такі ўладарны і ганарлівы, вялікі князь літоўскі, Міндоўг ці Войшалк, Віцень ці Гедымін, свайго дамена не меў.

Старажытныя літоўцы, брыганды Усходняй Еўропы, яшчэ з XIII стагоддзя ваявалі ва ўсіх частках паўночна-ўсходняй яе паловы. Часта ім даводзілася пакідаць і дом свой, звыкацца з гатыкай тэўтонскіх замкаў, мяняючы затым іх на навагрудскую гару, як Міндоўг, ці на белыя вежы Пскова, што прытулілі Даўмонта. Старажытныя літоўцы, якія жылі на вялікіх лясістых абшарах, нават не акрэсленых тады выразнай граніцай, не мелі феадальнага права, не атрымалі і ўласна літоўскага караля, як не атрымалі і чыста славянскага князя сумежныя з этнічнай Літвой славянскія вобласці.

У выніку на палітычнай сцэне з'явіўся герой, якога цяжка падвесці пад хрэстаматыйныя клішэ. Гэта быў літоўскі вараг — Віцень, што стаў ваенным выканаўцам Навагрудка, а з 1307 года і Полацка, адкуль дапамог выставіць немцаў, а затым Гедымін — "правіцель літоўцаў і рускіх", князь, які прадстаўляў ваенную палітыку ўжо добрай паловы Усходняй Еўропы.

Адсутнасць велікакняжацкага дамена адбілася і на тытулатуры. Напрыклад, поўны тытул Гедыміна, у адрозненне ад тагачасных заходніх і маскоўскіх традыцый, не ўключаў у сябе спіс вотчын са старажытным даменам наперадзе, а пісаўся проста — "ласкаю Боскай літоўскі і рускі правіцель, правіцель і князь Земгаліі".

Тое, што князь займаўся ваеннай і знешняй палітыкай (на тыя часы амаль заўжды адно і тое ж), было тыповым для ўсёй феадальнай Еўропы. Звычайным было і тое, што ўнутраная палітыка, у першую чаргу, вядзенне гаспадаркі, знаходзілася ў кампетэнцыі мясцовых уладароў—феадалаў (не блытаць іх з вялікімі князямі і княжатамі). Адметным было тое, што вярхоўная ўлада грунтавалася не на ўладанні зямлёй, якая ў Заходняй Еўропе была пачаткам эканамічных, сацыяльных і палітычных правоў, сацыяльнага статуса чалавека. І хаця феадальнае грамадства ведае шмат розных варыянтаў развіцця, асноўны ход і вынік усіх былі універсальнымі — моцны зямельны надзел даваў магчымасць будучаму манарху распаўсюджваць уладу тэрытарыяльна, а затым давесці аўтарытэт свайго двара з палітычнага да сацыяльнага — надаць уладзе грамадзянскі статус.

На Захадзе ўлада распасціралася з замка, які велічна ўздымаў да нябёсаў свой высокі і востры шпіль, у ВКЛ — сам замак будаваўся толькі дзеля таго, каб дапамагчы ўладзе выканаць галоўную яе функцыю — функцыю ваеннай абароны. Дзевяць замкаў, Ліда ці Крэва, Трокі ці Вільня, нізкія, нібы прыціснутыя да зямлі, больш змрочныя, чым велічныя, да сённяшніх дзён нагадваюць аб галоўных стратэгічных накірунках тагачаснай вайны.

Гэтым можна растлумачыць і тое, што сталіца ВКЛ адвольна пераносілася з Навагрудка ў Трокі і пазней у Вільню з адпаведнасцю стратэгічнай і практычнай выгадзе. Вядома, гэта немагчыма пры цэнтралізаваным усталяванні ўлады праз уплыў каралеўскага феода, сталіца якога і ператвараецца ў сталіцу дзяржавы.

Такім чынам, узнікала ўлада, што мела больш ваенна-палітычны, чым прававы характар. Пры шырокім жа мясцовым кіраванні яна была, фактычна, наднацыянальнай. Ваенна-палітычная ўлада караля і феадальная мясцовая (палітычная, судовая і гаспадарчая) ўлада не знайшлі агульнай дзяржаўнай формы з тым ці іншым этнасам. Нашчадкі Скаламенда (Гедымінавічы), што ўвасаблялі дзяржаву XIV стагоддзя, валодаючы, як здавалася, усёю тэрыторыяй, практычна не валодалі нічым. Нейкі час дзяржаўная цэнтральная ўлада — літоўская па паходжанню галоўных яе трымальнікаў — і беларускія, а пазней і ўкраінскія землі, са сваімі сталымі адносінамі і традыцыямі, існавалі нібыта паралельна. Вядома, што яны не былі ізаляваны, наадварот, у распараджэнні князя былі войска, харчаванне і яго вытворцы, тыя ж самыя замкі, крэпасці, табуны коней, але гэта ўсё давалася князю для паспяховага выканання ім задач абароны ці было ўзнагародай зя цяжкую службу.

Так у XIV стагоддзі ў ВКЛ усталявалася велікакняжацкая ўлада, што не мела пад сабою дамена і феодаў — васалаў, прычэпленых да яго, г. зн. не мела ў самым дакладным сэнсе феадальнай базы і была ад самага пачатку ўладай грамадзянскай, хаця пакуль яшчэ неправавой. У гэтым яе асаблівасць, якая ўпрыгожвае сабою гісторыю ўсяго сярэдневяковага свету і безумоўна, робіць Беларусі вялікі гонар, бо менавіта традыцыі кіравання на беларускіх землях і зрабілі яе такой.

То быў час свабоды для беларускіх (і іншых, што складалі ВКЛ) зямель. Яшчэ не было ўціску сквапнага двара цэнтралізаванай дзяржавы, яшчэ не галіліся на іх магнаты, яшчэ панавала свабода канфесій, мацнела культура, вёўся вольны гандаль. Адным словам, тады закладвалася ўсё тое, што вытрымала націск сацыяльных штормаў канца XIV — пачатку XV стагоддзяў, усё тое, што і зрабіла век XVI "залатым".

Сістэма, якая склалася, была настолькі простай і зручнай, што большасць суседніх з ВКЛ зямель, прайшоўшы ўжо вялікі гістарычны шлях, дасягнулі высокага ўзроўню цывілізацыі, па-рознаму, але пераважна добраахвотна ўступалі свае ваенныя справы кампетэнцыі вялікага літоўскага князя. На агромністай цяпер ужо тэрыторыі ВКЛ па-ранейшаму панаваў меч, і смелыя сыны Гедыміна не знаходзілі часу, каб схаваць яго ў ножны.

Любарт быў заручаны з валынскаю княжною Лукер'яй. Альгерд — з віцебскай Марыяй, Кейстута прызналі на Падляшшы і Берасцейшчыне, і велікакняжацкая ўлада стала, па выразу У. Пічэты, набыткам княжацкай сям'і. Тое, што было раней справай аднаго, цяпер стала справай моцнага клана, зносіны паміж членамі якога не рэгуляваліся нічым, акрамя відавочнай патрэбы дапамагаць адзін аднаму і падначальвацца бацьку ці найбольш аўтарытэтнаму ў родзе. Смерць Гедыміна нічога не змяніла, наадварот, такая патрыярхальная сістэма ўлады захавалася яшчэ надоўга.

І сапраўды, яна выглядала моцнай і надзейнай. Ні варункі ўнутранага жыцця, ні знешняя небяспека, здавалася, не давалі падстаў каб змяніць яе. І ўсё ж вялікія ўзрушэнні ўжо набліжаліся.

Апыніся тады наш сучаснік у Вялікім княстве Літоўскім, ён зрабіў бы высноў, што васьмідзесяцігадовы гістарычны эксперымент пацярпеў правал. Што агульная, хаця і не надта глыбокая, але ўсё ж вярхоўная ўлада, якая прыкрывала сваім шчытом тры этнасы, спыніла сваё існаванне. І гэта своеасаблівае дзяржаўнае ўтварэнне сышло з усходнееўрапейскай сцэны, што велізарная тэрыторыя вяртаецца да XIII стагоддзя, калі не было і размовы не толькі аб славянска-літоўскім блоку, але нават уласна славянскае аб'яднанне выглядала далёкай будучыняй. Ды кожны новы крок гісторыі — заўсёды адзін з магчымых. Асабліва ў пераломныя яе моманты. Гэта — час альтэрнатыў. Але нашы продкі не ведалі слова альтэрнатыва, яны звычайна спасылаліся на лёс, які і з'явіўся ў хуткім часе ў вобразе чорнага крыжа на белай мантыі, паказаўшы слабасць сістэмы раскладвання ўлады па абласных утварэннях.

(Заканчэнне будзе).

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ХАЧУ ПАДТРЫМАЦЬ ГАЗЕТУ

Паважаная рэдакцыя!

Сардэчна вітаю вас і жадаю вам ад Бога добрага здароўя, усякае памыснасьці ва ўсебаковым вашым жыцьці.

Найперш шчыра дзякую вам за навагодняе павіншаваньне і зьмяшчэньне майго ліста ў газеце. Хачу вас спавесьціць аб нашай асьветніцкай працы для беларускага народа праз радыё і літаратуру. Пры гэтым пасылаю вам копію нашага часопісіка, якога нашае Беларускае Брацтва выдае ў рускім часопісе "С. І". Спадзяюся, што вы калі-небудзь чулі нашу радыёпраграму "Добрая вестка" з Монтэ-Карла, яна гучыць па панядзелках у 18.45 па маскоўскаму часу.

Мы, замежнікі, вельмі цешымся з таго, што вы газетай "Голас Радзімы" далучаецеся да распаўсюджваньня Боскае праўды: друкаваньнем кніжкі "Боская і людская мудрасць", агалошэньнямі аб хрысьціянскіх вечарынах і другіх хрысьціянскіх дзеях, за што Богу і вам сардэчна дзякуем.

Пры гэтым пасылаю вам маю аплату за газету ў амерыканскай валюце, але прызнаюся, што не ведаю, ці правільна гэта раблю.

Пры заканчэньні даводжу да вашага ведама, што калі будзе на тое воля Божая, дык у надыходзячае лета намерваемся з сынам наведаць Радзіму і ў тым ліку Мінск. Калі пажадаеце, наведаем рэдакцыю, дзе бліжэй пазнаёмімся адны з другімі.

Застаюся з пашанай чытач вашай газеты

Я. РАПЕЦКІ,

Канада.

